# Зьезд прадстаўнікоў эміграцыі

## ПРАДСТАЎНІЦТВА АБРАНАЕ

24-25 красавіка сёлета ў Остэргофэне адбыўся агульны зьезд выбраных дэлегатаў ад беларускіх лягераў і зарганізаваных нацыянальных групаў трох зонаў Нямеччыны і прадстаўнікоў ад дзейных беларускіх арганізацыяў міжзоннага абсягу. Як ужо ведама грамадзянству з папярэднягa, асноўнай мэтай зьезду былі перавыбары дасюлешняга цэнтральнага прадстаўніцтва беларускае эміграцыі ў Нямеччыне, якое дагэтуль насіла назоў «Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту ў Нямеччыне».

Адчынены Старшынём Цэнтральнае Выбарнае Камісіі, зьезд цалком прыняў парадак дня, апублікаваны загадзя Камісіяй у ейным камунікаце № 4 (гл. «Бацькаўшчыну» № 11 (4). Толькі на прапанову аднаго з дэлегатаў, адразу-ж па выбарах прэзыдыюму зьезду, які ўканстытуяваўся ў складзе сп. д-ра С. Грынкевіча (старшыня), А. Махноўскага, М. Панькова (заступнікі старшыні), Я. Чарнэцкага і У. Русака (сакратары), зьезд выслухаў даклад аб міжнародным і нутранаэміграцыйным палажэньні, зроблены рэдактарам газ. «Бацькаўшчына».

Паводля справаздачы Мандатнае Камісіі, уканстытуяванай у складзе сп. сп. інж. У. Тамашчыка, М. Міцкевіча, інж. Ч. Ханяўкі, на зьезд было выбрана агулам 57 дэлегатаў, прыбыў 51 дэлегат (зь іх 35 ад асяродкаў, 16 ад арганізацыяў). Апрача таго, было шмат гасьцей, як прыбылых, так і мясцовых остэргофэнскіх. Адзін із старэйшых дэлегатаў зьезду, яшчэ нашанівец, дэлегат I-га Ўсебеларускага Кангрэсу Адварды Будзька, ня могучы прыехаць асабіста, прыслаў пісьмовае прывітаньне, прынятае зьездам моцнымі й даўгімі воплескамі. Сваё прывітаньне сп. Будзька закончыў словамі: «Дай Божа дачакацца ўсім тым, хто прагне дачакацца — дэмакратычных свабодаў на нашай Бацькаўшчыне Беларусі й шчасьлівай там сустрэчы з тутэйшымі й тамтэйшымі сваімі родзічамі ў вольнай ад дэспатычнага рэжыму — у Беларускай Народнай Рэспубліцы!»

На справаздачу дасюлешняга старшыні ўраду БЦДК сп. А. Вініцкага зьезд прызнаў абсалюторыюм гэтаму ўраду й асобна — падзяку Старшыні сп. Вініцкаму.

Статутовая Камісія Зьезду, ўканстытуяваная ў складзе мгр. М. Галяка, м. Б. Рагулі й д-ра А. Ворсы, прадставіла зьезду новы статут камітэту-прадстаўніцтва, які па дэтальным абмеркаваньні кажнага пункту й прыняцьці адпаведных папраўкак, быў аднагалосна ўхвалены Зьездам. Паводля пункту 1-га новага Статуту, камітэт-прадстаўніцтва мае новы назоў: «Беларускі Нацыянальны Камітэт. Цэнтральнае Прадстаўніцтва Беларускае Эміграцыі ў Нямеччыне» (у дасюлешнім назове заміж «Нацыянальны» было «Цэнтральны Дапамаговы», аб гэтай зьмене яшчэ гл. адмысловую пастанову зьезду ў гэтым нумары «Бацькаўшчыны»).

Пасьля шырокай, ажыўленай і рэчавай дыскусіі — абмену думак аб закранутых на зьезьдзе й наагул усіх пякучых пытаньнях нашага нацыянальнага эміграцыйнага жыцьця, зьезд выбраў новы ўрад БНК у складзе: старшыня — інж. У. Тамашчык, заступнікі старшыні — пасол А. Стагановіч, мгр. М. Кунцэвіч, д-р С. Грынкевіч, сябры ўраду — сп. сп. д-р П. Гайдзель, мгр. Л. Галяк, А. Махноўскі, інж. Ч. Ханяўка, Н. Арсеньнева, Я. Чыжык, У. Бортнік, В. Кажан, У. Русак, М. Рачыцкі, М. Тулейка. Выбраная таксама Рэвізійная Камісія ў складзе сп. сп. А. Вініцкага, С. Кабыша й Я. Чарнэцкага.

Зьезд прыняў прывітальную тэлеграму Прэзыдэнту БНР М. Абрамчыку, а таксама рэзалюцыі й пастановы, якія й публікуюцца ў сяньняшнім нумары «Бацькаўшчыны». Апрача таго, зьезд вынес поўны давер цяперашняму рэдактару газ. «Бацькаўшчына».

Позна ўвечары 25. 4. зьезд закончыўся адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

---

26. 4. на паседжаньні новаабранага ўраду БНК адбылося разьмеркаваньне функцыяў між сябрамі ўраду. Мгр. М. Кунцэвічу даручаны рэфэрат міжнацыянальных дачыненьняў, д-ру С. Грынкевічу — рэфэрат нутраных справаў, сп. А. Махноўскаму — культурна-асьветны рэфэрат, інж. Ч. Ханяўку — перасяленскі, сп. М. Рачыцкаму — рэфэрат спорту й моладзі, сп. У. Бортніку — інфармацыі й прэсы, сп. Н. Арсеньневай — жаноцкі рэфэрат, д-ру П. Гайдзелю — рэфэрат фінансаў, мгр. Л. Галяку — прадстаўніцтва на Брытанскую зону й сп. Я. Чыжыку — прадстаўніцтва на Француcкую зону.

На паседжаньні таксама назначаны плян працы ўраду.

**Яго Эксцэленцыі**

**Спадару Прэзыдэнту Беларускае Народнае Рэспублікі Мікалаю Абрамчыку.**

Мы, выбраныя прадстаўнікі-дэлегаты ад беларускіх лягераў і зарганізаваных нацыянальных групаў трох заходніх зонаў Нямеччыны, а таксама прадстаўнікі дзейных беларускіх нацыянальна-грамадзкіх арганізацыяў міжзоннага абсягу, зьехаўшыся ў Остэргофэне 24 і 25 красавіка 1948 г. дзеля перавыбараў Цэнтральнага Прадстаўніцтва Беларускае Эміграцыі ў Нямеччыне — Беларускага Нацыянальнага Камітэту, маем гонар пераслаць Вашай Эксцэленцыі нашыя найшчырэйшыя прывітаньні й станаўкія запэўненьні ў тым, што, як дагэтуль, так і надалей будзем няўтомна працаваць і змагацца за зьдзейсьненьне нашага найвялікшага ідэалу дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, абвешчанай Радай БНР у векапомным акце 25 сакавіка 1918 г.

Маніфэстуючы гэтым нашае поўнае падпарадкаваньне Вашай Эксцэленцыі, Радзе і Ўраду БНР, як адзінапраўным і найвышэйшым носьбітам сувэрэнных правоў Беларускага Народу, мы запэўняем, што непахісна будзем выконваць загады гэтых найвышэйшых органаў БНР, бо толькі яны вядуць нас да вялікай нацыянальна-вызвольнай мэты. Мы таксама будзем мужна змагацца з усякімі варожымі спробамі абнізіць аўтарытэт БНР, будучы моцна перакананымі, што такія спробы паходзяць ад чужацкае агентуры й маюць на мэце разьбіцьцё беларускага нацыянальнага адзінства й паслабленьне дынамікі нашага нацыянальна-вызвольнага руху.

Няхай жыве Вольная, Непадзельная й Незалежная Беларусь!

Няхай жыве Рада і Ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі!

Няхай жыве Прэзыдэнт БНР Мікалай Абрамчык!

## ПАСТАНОВА

**ў справе зьмены назову Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту ў Нямеччыне.**

У сувязі з тым, што кампэтэнцыі Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту апошнім часам ладна пашырыліся й абыймаюць цяпер ня толькі справы дапамагова-харытатыўнага характару, але й пытаньні нацыянальна-грамадзкага жыцьця беларускае эміграцыі ды ўзаемадачыненьняў і супрацоўніцтва зь іншымі нацыянальнасьцямі Сярэдня-Ўсходняй Эўропы й Падсавецкай Азіі, Зьезд пастанаўляе зьмяніць дасюлешні назоў Камітэту на наступны, што поўнасьцяй адказвае характару ягонае дзейнасьці: **«Беларускі Нацыянальны Камітэт. Цэнтральнае Прадстаўніцтва Беларускае Эміграцыі ў Нямеччыне».**

## ПАСТАНОВА

**ў справе дакумэнтаў аб пацьверджаньні беларускае нацыянальнае прыналежнасьці.**

У сувязі з тым, што ў выніку ненармальных абставінаў шмат Беларусаў ў лягерах ДП былі запісаныя небеларусамі, а шмат небеларусаў (прыкладам, Расейцы) з тых ці іншых прычынаў запісалі сябе Беларусамі, Зьезд даручае БНК правесьці безадкладна ўстанаўленьне й пацьверджаньне беларускае нацыянальнае прыналежнасьці нашых суродзічаў, выдаючы ім аб гэтым афіцыйныя пасьветчаньні з фатаграфіямі. Аб гэтым мерапрыёмсьцьве павінны быць паведамленыя IРО, Эміграцыйныя Установы, а таксама ўсе беларускія арганізацыі за межамі Нямеччыны, каб на гэтай падставе маглі яны арыентавацца аб запраўднай нацыянальнай прыналежнасьці нашых суродзічаў.

## ПАСТАНОВА

**у справе грамадзкага ападаткаваньня.**

На матар'яльнае забясьпечаньне беларускае нацыянальна-грамадзкае, дапамаговае, выдавецкае й культурна-асьветнае дзейнасьці, Зьезд пастанаўляе абвесьціць грамадзкае ападаткаваньне для ўсіх Беларусаў трох заходніх зонаў Нямеччыны ў вышыні 20 марак ад кажнае асобы, што скончыла 18 год. Ападаткаваньне абавязвае ад дня абвешчаньня. Правядзеньне гэтага ападаткаваньня й разьмеркаваньне атрыманых зь яго сумаў на паасобныя галіны нашага культурна-грамадзкага жыцьця даручаецца Прэзыдыюму БНК.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Ў справе спробаў стварэньня г. зв. «Беларускага Цэнтральнага Эміграцыйнага Прадстаўніцтва».**

Мы, выбраныя прадстаўнікі-дэлегаты ад беларускіх лягераў і арганізаваных нацыянальных групаў ад трох заходніх зонаў Нямеччыны й прадстаўнікі ад дзейных беларускіх нацыянальных арганізацыяў міжзоннага абсягу, разважыўшы й абмеркаваўшы спробы безадказнае й апартуністычнае групкі правесьці выбары г. зв. «Беларускага Цэнтральнага Эміграцыйнага Прадстаўніцтва», запраектаванага былым прэзыдэнтам Беларускае Цэнтральнае Рады Радаславам Астроўскім, прыйшлі да наступных высноваў:

1. Праектаванае «Беларускае Цэнтральнае Эміграцыйнае Прадстаўніцтва», як вынікае з адозвы Р. Астроўскага, адозвы ініцыятараў выбараў ды цэлага раду прэсавых выступленьняў, у сваёй аснове скіраванае супраць легальных і законных беларускіх прадстаўніцтваў і арганізацыяў. Гэтая групка Беларусаў, заміж уліцца ў існуючыя й актыўна працуючыя дагэтуль беларускія інстытуцыі й арганізацыі, куды дзьверы для яе заўсёды адчыненыя, пачала з мэтаю дывэрсіі й дэструкцыі весьці сама неэтычнае й дэмагагічнае змаганьне зь імі, імкнучыся на месца іх стварыць новую й нікому непатрэбную рэпрэзэнтацыю — г. зв. «Беларускае Цэнтральнае Эміграцыйнае Прадстаўніцтва».

2. Групу ініцыятараў і арганізатараў г. зв. «Беларускага Цэнтральнага Эміграцыйнага Прадстаўніцтва» ўзначальваюць людзі, у большасьці сваёй ведамыя з апартунізму й прарасейскіх сымпатыяў, якія ўжо ня раз, у залежнасьці ад асабістых выгодаў і карысьці, рэзка мянялі свой палітычны курс, выказваючы гэтым сваю беспрынцыповасьць і ўваходзячы ў супярэчнасьць із запраўднымі нацыянальнымі імкненьнямі беларускага народу. Пакуль існавала ў Нямеччыне небясьпека усякае публічнае грамадзка-арганізацыйнае працы ды пакуль яшчэ саветы настойліва дамагаліся ад заходніх дэмакратыяў прымусовае рэпатрыяцыі, гэтыя людзі ня толькі аказвалі поўную бязьдзейнасьць, але навет рабілі вялікія перашкоды ў працы над арганізацыяй беларускае эміграцыі й абаронай ейных правоў перад акупацыйнымі вайсковымі й унраўскімі ўладамі, праводжанай тымі беларускімі арганізацыямі, якія тым нязвычайна цяжкім і небясьпечным часам выявілі шмат патрыятызму й вялікую адвагу. На працягу двух апошніх год гэтыя арганізацыі, не зважаючы на нястачу матар'яльных сродкаў і вялікія перашкоды, шмат зрабілі для справы беларускае эміграцыі, дзякуючы няўтомнасьці й ахвярнасьці іхных кіраўнікоў і супрацоўнікоў. Цяпер-жа, калі абставіны радыкальна зьмяніліся, гэтая групка людзей раптоўна выступіла на публічную арэну й павяла энэргічную дзейнасьць, але не дзеля ўзмацненьня існуючых і працуючых дасюль беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў, не дзеля шырэйшага разгортаньня пазытыўнае беларускае нацыянальнае працы, а толькі з вылучнаю мэтаю ейнае ліквідацыі.

3. Апрача русыфікатараў, узначальваюць сяньня гэтую дывэрсійную дзейнасьць частка й тыя людзі, якія ў мінуласьці выконвалі ролю палёнізатараў, і няма прычыны думаць, што й сяньня яны ня могуць быць на паслугах таксама й польскага імпэрыялізму.

4. Сама тэхніка й сыстэма праводжаных цяпер выбараў у г. зв. «Беларускае Цэнтральнае Эміграцыйнае Прадстаўніцтва» ня можа ў ніякім выпадку гарантаваць справядлівасьці й аб'ектыўнасьці гэтых выбараў. Галасуецца толькі за адзін сьпіс кандыдатаў у розных камбінацыях, званых «новымі сьпісамі», без магчымасьці кантролю з боку розных групаў выбаршчыкаў. Галасаваньне адбываецца на адныя й тыя самыя сьпісы ня толькі ў розных мясцовасьцях Нямеччыны, але й за межамі яе. Дзеля гэтага кандыдаты часта ня толькі асабіста, але й наагул нязнаныя выбаршчыкам. Шырэйшыя масы выбаршчыкаў ня маюць ніякага ўплыву на выстаўленьне кандыдатаў, якія выстаўляюцца спосабам цэнтральным. Усё гэта вылучае свабоднае выяўленьне волі выбаршчыкаў і які-колечы кантроль выбараў, а дае шырокае поле для надужыцьцяў і хвальшаваньняў.

5. Як паказвае прабег галасаваньня ў цэлым радзе беларускіх лягераў і групаў, жыхарства іх у мінімальнай колькасьці ідзе на гэтыя выбары, што змушае арганізатараў выбараў груба парушаць прынятую імі-ж выбарную ардынацыю, расьцягваць тэрмін галасаваньня з аднаго да колькіх дзён, хадзіць з выбарнымі урнамі па прыватных памешканьнях і намаўляць, а навет застрашваць людзей, каб яны ўзялі ўдзел у галасаваньні.

Бяручы на ўвагу ўсё вышэйшае, Зьезд сьцьвярджае, што:

1. Выбары ў г. зв. «Беларускае Цэнтральнае Эміграцыйнае Прадстаўніцтва» ў ніякім выпадку не становяць законнага й свабоднага выяўленьня волі навет тае невялічкае часткі беларускай эміграцыі, якая з тых ці іншых прычынаў узяла ўдзел у гэтых выбарах, і выбранае такім спосабам г. зв. «Беларускае Цэнтральнае Эміграцыйнае Прадстаўніцтва» ня можа ўважацца за якое-небудзь законнае беларускае прадстаўніцтва.

2. Факт арганізаваньня г. зв. «Беларускага Цэнтральнага Эміграцыйнага Прадстаўніцтва», як і абвешчанага «дэкрэтам» Р. Астроўскага ўліцьця яго ў «абноўленую» Беларускую Цэнтральную Раду, пасьля фактычна самазьліквідаванае г. зв. «Міжлягернае Рады», становіць чарговую спробу разьбіцьця беларускага нацыянальнага адзінства й ліквідацыі беларускага незалежніцкага нацыянальна-вызвольнага змаганьня.

3. Уся акцыя стварэньня г. зв. «Беларускага Цэнтральнага Эміграцыйнага Прадстаўніцтва» як і задэкрэтаванае «абнаўленьне» Беларускае Цэнтральнае Рады выразна шкодныя для беларускае нацыянальнае справы й служаць мэтам адвечных варагоў беларускага народу — крамлёўскіх імпэрыялістых, якія праз разьбіцьцё нашага нацыянальнага адзінства й арганізаванага жыцьця пасьлядоўна імкнуцца да ліквідацыі беларускае незалежніцкае праблемы на карысьць маскоўскага імпэрыялізму.

Дзеля гэтага Зьезд заклікае ўсю беларускую эміграцыю даць найбольш станаўкі адпор нясумленнай і шкоднай акцыі Астроўскага й ягонае клікі, ды яшчэ цясьней згуртавацца вакол Прэзыдэнта, Рады і Ўраду БНР, вакол Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне, як законных і заслужаных сваёй працай беларускіх нацыянальных прадстаўніцтваў.

Рэзалюцыя была прынятая Зьездам аднагалосна.

